# Самапомач

Беларуская кооперацыйна-гаспадарчая часопісь

| Год V. | Вільня, Лістапад 1936 г. | № 11. |
|---|---|---|

*Хай злыдні над намі,*
*скрыгочуць зубамі*
*Любі сваю ніву, свой*
*край,*
*І, колькі ёсьць сілы,*
*да самай магілы*
*Ары, барануй,*
*засявай!..*

ЯНКА КУПАЛА.



*Усе вялікія падзеі народаў і ўсе цывілізацыі былі створаныя дабравольнымі стараньнямі аб'яднаных людзей... самапамаччу.*

*Джордж* РЭССЭЛЬ (*Ірляндзец*).



ЗЬМЕСТ № 11 (52).



# Ceny ŭ Vilni

**Zbožža.** *12.XI.36, za 100 kilohram.*

| | |
|---|---|
| Žyta | 17.25—18.00 |
| Pšanica | 22.00—23.50 |
| Jačmień na pansak | 19.75—20.75 |
| Avios | 15.40—16.90 |
| Hračycha | 19.75—20.25 |
| Muka pšaničnaja | 25.50—44.00 |
| Muka žytniaja da 50% | 26.50—27.25 |
| „ „ da 65% | 24.00—24.75 |
| Muka razovaja da 95% | 20.00—20.50 |
| Votruby žytnija | 12.50—13.00 |
| „ pšaničnyja | 13.00—14.00 |
| Łubin sini | 9.00—9.50 |
| Siemia lannoje b. 90% | 37.12—37.50 |
| Lon trapany, Vałožyna | 1440.—1480. |
| Lon trapany, Harodziej | 1640.—1680. |
| Lon trapany, Miory | 1420.—1460. |
| Lon časany, Harodziej | 1950.—1990. |
| Kudziela Harodzie | 1450.—1490. |

**Małočnaje za 1 kilo (31.X 36).**

| | |
|---|---|
| Masła najlepšaje, I. sort za kil. ŭ hur. | 2.40—2.50 |
| „ „ „ „ „ u detalu | —2.70 |
| Masła stałovaje II sort za kilo ŭ hurcie | 2.30—2.40 |
| „ „ „ „ „ u detalu | —2.70 |
| Syr litoŭski, za kilo ŭ hurcie | 1.40—1.80 |
| „ „ „ „ u detalu | 1.60—2.20 |
| Syr ementalski(švajc.)za kilo ŭ hurcie | 2.40—2.50 |
| „ „ „ „ „ u detalu | —3.00 |
| Jajki, kapa | 5.40—7.20 |
| „ za štuku | 9—13 hraš. |

**Miasnoje 30.X.36.**

*Za kilo žyvoj vahi:*

| | | |
|---|---|---|
| **Bydła:** | stadniki | 0.23—0,33 |
| | karovy | 0.22—0,32 |
| | cialaty II sort | —0.50 |
| **Švini:** | | 0.65—0.85 |
| **Aviečki** | | 0.48—0.53 |

| | | |
|---|---|---|
| **Miasa:** | vałovina, całyja štuki | 0.50—0.60 |
| | vałovina, zady | 0,60—0.80 |
| | vałovina, pierady (košar) | 0.80—1.00 |
| | cialacina | 0.75—0.85 |
| | švinina | 1.00—1.15 |
| | baranina | 0.65—0.70 |
| **Skury syryja:** | bydlačyja za 1 kilo | 1.05—1.10 |
| | cialačyja za št. | 6.00—6.50 |
| | aviečyja | 4.25—4.50 |
| | ščacina, niesart. za kilo | 7.00—8.00 |

Samapomač

BIEŁARUSKI
KOOPERATYŬNA - HASPADARSKI
ČASAPIS.

Adres:
VILNIA (Wilno), Połackaja vul. 9—4.

Самапомач

| Hod V. | Vilnia, Listapad 1936 h. | Nr. 11 (52). |
| --- | --- | --- |

# Novyja praviły ab ustrojstvach małačarniaŭ

Apirajučysia na zakon ab małačarstvie z 22 krasavika siol., Ministr Ziemlarobstva vydaŭ 15 kastryčnika siol. (Dz. U. № 82, poz.568) specyjalnaje rasparadžeńnie ab ustrojstvie małačarniaŭ. Heta rasparadžeńnie ŭvajšło ŭ siłu ŭžo z dniom 1 listapada siol. Hałoŭnyja pastanovy hetaha rasparadžeńnia nastupnyja:

Rasparadžeńnie pradbača piać hatunkaŭ małačarskich pradpryjemstvaŭ: 1. źlivalni, 2. małačarni, 3. śmietančarni, 4. maślarni i 5. syravarni.

1. **Źlivalni** (papolsku *zlewnia*) heta takija miascy, hdzie ad niekalkich haspadaroŭ źbirajecca i źlivajecca razam małako „dziela pradažy abo ŭviadzieńnia ŭ abarot inšym sposabam, kali heta małako tut nie pierarablajecca jnakš aprača ačyščańnia i studžeńnia". Hetkaja źlivalnia pavinna mieć prynamsia: dva pamiaščeńni, vahu abo mierku, jakoj mierycca pryjmanaje małako, pryładździe dziela aznačeńnia jakaści, a pavodle mahčymaści — i kłustaści pryjmanaha małaka, a taksama pryładździe da ačyščańnia, studžeńnia i pierachoŭvańnia małaka.

2. **Małačarni.** Małačarniaj jość pradpryjemstva, u katorym, akramia čynnaściaŭ pradznačanych dla źlivalniaŭ, małako pasteryzujecca, homogienizujecca, raźlivajecca ŭ butelki, abo puskajecca ŭ abarot inšym sposabam; u małačarni tak-ža z małaka vyrablajecca dy puskajecca ŭ abarot (prodaž) sałodkaja śmiatana. Małačarni pavinny mieć prynamsia try pamiaščeńni, usio pryładździe źlivalniaŭ, a tak ža aparaty da pasteryzavańnia, abo homogienizavańnia, kali hetyja małačarni puskajuć u abarot pasteryzavanaje ci homogienizavanaje małako, abo hetkuju śmiatanu.

3. **Śmietančarni** — heta pradpryjemstvy, u jakich tolki addzialajecca z małaka śmiatana i puskajecca ŭ abarot. Śmietančarnia pavinna mieć prynamsia dva pamiaščeńni, vahu abo mierku na pryjmanaje małako, pryładździe da aznačeńnia jakaści i pa mahčymaści kłustaści pryjmanaha małaka, pryładździe da padahravańnia małaka, studžeńnia, a tak-ža da ŭtrymańnia śmiatany pry nizkaj temperatury.

4. **Maślarni** — heta pradpryjemstvy, u katorych vyrablajecca masła dziela prodažy i naahuł puščeńnia ŭ abarot. Maślarnia pavinna mieć prynamsia try pamiaščeńni; da hetaha: vahu abo mierku na pryjmanaje małako abo śmiatanu, pryładździe da aznačeńnia jakaści i kłustaści małaka, małačarskaje sita z filtram da ačyščańnia małaka, pryładździe da padahravańnia małaka, centryfuhu (centrabiežka) — kali maślarnia pryjmaje poŭnaje małako, pryładździe dziela studžeńnia i fermentavańnia śmiatany, masłabojku i vyciskač. Kali małačarnia puskaje ŭ abarot masła z pasteryzavanaj śmiatany, dyk akramia taho pavinna mieć aparat da pasteryzavańnia, a taksama pryładździe da pryhatavańnia zakvasu.

**Syravarni** — heta pradpryjemstvy, u katorych vyrablajucca syry dziela prodažy ci jnakšaha ŭviadzieńnia ŭ abarot. Syravarnia, u katoraj vyrablajucca syry praznačanyja da spažyćcia ŭ stanie śviežym abo syry z tvarahu, pavinna mieć prynamsia try pamiaščeńni; syravarnia, jakaja vyrablaje syry vymahajučyja bolš času dziela daśpiavańnia, pavinna mieć prynamsia čatyry pamiaščeńni; syravarnia, u katoraj užyvajecca małako padstajovaje pavinna mieć asobnaje pamiaščeńnie dziela padstojaŭ. Akramia taho syravarnia pavinna mieć prynamsia: vahu abo mierku na pryjmanaje małako, małačarskaje sita z filtram, pryładździe dziela aznačeńnia jakaści j kłustaści małaka, syravarski cebar; pry vyrabie syroŭ z paźniejšym daśpiavańniem patrebny: pryładździe na proby fermentacyjnyja i probnuju reduktazu, dy pryładździe na saleńnie i dahlad syroŭ.

Urešcie što da techničnych kiraŭnikoŭ paasobnych vidaŭ małačarskich pradpryjemstvaŭ (źlivalniaŭ, małačarniaŭ, śmietančarniaŭ i syravarniaŭ), dyk pavinny jany mieć adpaviednaje teoretyčnaje i praktyčnaje pryhatavańnie. Tyja z kiraŭnikoŭ, jakija ŭžo pracavali ŭ dniu 1 listapada 1936 h., ale vymahanaha pryhatavańnia nia mieli, pavinny jaho dapoŭnić najpaźniej da 1 lipnia 1939 h., h. zn. za dva z pałovaj hady.

Hety zakon nie abaviazvaje ŭ pryvatnych małačarniach, kali jany pierarablajuć tolki małako adnaho haspadara i nia bolš: 300 litraŭ u dzień u Biełastoččynie, abo 200 litraŭ u Vilenščynie, Navahradčynie i Paleśsi.



# Ab biespracentnych kredytach

**Kasy biespracentnych pazyčak.** Vialikimi farmalnaściami abstaŭlenaje ŭ nas haspadarčaje žyćcio na asnovach kooperatyŭnych znachodzić sabie vychad u formach inšych. Majem tut naŭviecie halinu drobnaha kredytu, jaki ŭ apošnija hady davoli raźvivajecca ŭ formie „Kasaŭ Biespracentnych Pazyčak". Ci hetaja forma lepšaja za kooperatyŭnuju, tymčasam skazać nia možna. Bo ž viedama, što hetkija „Kasy" paŭstavali i pierad tym, jak byli znojdzieny formy kredytu kooperatyŭnaha. Jak-by tam nia było, faktam siahońnia jość, što biespracentnyja kasy na našych ziemlach davoli pašyrajucca. U 1934 h. ich było: u Biełastoččynie i Vilenščynie — pa 64 ŭ kožnaj, u Navahradčynie — 29, a na Paleśsi — 39. Siaredniaja pazyčka ŭ takoj kasie 100 (sto) złotaŭ.

Dokaz heta, što aficyjalnaja ŭ nas kooperacyja siahońnia nie zdavalaje ŭžo patrebaŭ nizoŭ i jany šukajuć vychadu sami.

Kab tolki i hetych samadapamohavych paryvaŭ nie zamarazili ściudzionyja abojmy niaprošanaj apieki.

**Polskaja Centralnaja Kasa Biespracentnaha Kredytu**, jak arhanizacyjnaja centrala, paŭstała ŭ Varšavie sioleta ŭletku. Pavodle zaćvierdžanaha statutu, zadańniem hetaj Centr. Kasy jość pomač pry zasnoŭvańni i viadzieńni biespasiarednich Kas Biespracentnaha Kredytu (pa vioskach i haradoch) i davańnie pazyčak hetym Kasam. Asobam fizyčnym (paasobnym haspadarom) Centralnaja Kasa pazyčak nie daje. Z dasiulešniaj pracy Centralnaj Kasy treba zaznačyć pierad usim apracavańnie i zaćvierdžańnie ŭ dziaržaŭnych uładaŭ prykładnaha statutu dla Kas Biespracentnaha Kredytu, čym značna skaračvajecca ciapier usia pracedura lehalizacyi Kasaŭ. Aprača statutu, Centr. Kasa taksama ŭžo apracavała, vydała i na žadańnie arhanizacyjnych Kamitetaŭ rassyłaje instrukcyi, a ŭ chutkim časie maje vydać drukam tak-ža rehulamin Kas i ŭzory rachunkovaści.

Adres Centralnaj Kasy: Warszawa, ul Miodowa 7—5.

# *Сельская гаспадарка.*

## Не марнуйце гною!

Толькі цёмны чалавек кажа, што грошы ў гаспадарцы — гэта ўсё. Зусім ня ўсё! Патрэбна йшчэ сьветлая, разумная галава, без якой няведама колькі грошаў можна за кароткі час «выкінуць у балота" і быць жабраком.

Але марнатраўцам ёсьць ня толькі той, хто неабдумана выкідае грошы: марнатраўцам ёсьць і той, хто сьведама, або нават і з завіненай нясьведамасьці марнуе час і іншае гаспадарскае дабро, якое магло-б павялічыць даходнасьць з гаспадаркі. Гэткім часта марнаваным гаспадарскім дабром ёсьць **гной**, бeз каторага наша глеба ня родзіць.

Слушна наракаем сягоньня, што штучныя гнаі не па кішані нашаму гаспадару. Але ці-ж не марнуецца ў нашых гаспадарках гной натуральны, гэты гной найлепшага гатунку? Так, марнуецца! Досыць заглянуць у дажджысты восенскі дзень у панадворак першага лепшага гаспадара, каб там пабачыць адно з двух зьявішчаў: або вада з панадворка ці вуліцы падплывае ў хлеў і вымочывае (выпаласківае) гной, або наадварот, гнойная жыжка выцякае залацістымі ручайкамі з хлява і марнуецца. І адно і другое ёсьць вялікай стратай у гаспадарцы. Стратай таксама ёсьць, калі ў хлеў дастаецца вада праз страху. Дзеля гэтага трэба безадкладна:

а) уздоўж падмуроўкі даць раўкі, каторымі адплывала-б уся дажджавая вада;

б) недапусьціць, каб выплывала гнойная жыжка з хлява;

в) паправіць усе працякаючыя стрэхі.

А далей —трэба аглянуцца, ці не марнуецца ў гаспадарцы штосьці, што на добры лад мусіла-б даваць вялікую карысьць. Маю тут на ўвазе ладжаньне кампостаў, аб якіх „Самапомач" ня раз ужо пісала і якія з усякіх гаспадарскіх адпадкаў вытвараюць вельмі цэнны гной.

Дзеля нястачы месца, ня буду тут апісываць, як такі кампост закладаць*). Зазначу толькі, што на кампаставаньне між іншым трэба выкарыстаць паскробкі з бітых дарог і *асадны іл з ставоў і сажалак.* Аб гэтым апошнім трэба памятаць асабліва цяпер, увосені, бо гэта дае вельмі цэнны матар'ял на кампост, а спускаць сажалкі як раз цяпер пара. Трэба пры гэтым толькі добра памятаць, што сьвежа вывезены з сажалак іл ня можа быць ужыты безпасярэдна на гнаеньне, бо ў ім часта бываюць труючыя для расьліны складнікі жалеза і гэтак званы кіслы гумус (перагной). Дзеля гэтага такі іл лепш нават за сьвежа не компоставаць, а вывезьці яго на сухое месца, каб абсох, перамерз і тады толькі скомпоставаць у перамешку з вапнай.

Так ці гэтак іл з сажалак можа быць вельмі добрым матар'ялам на атрыманьне гною. Выкарыстаць яго ў гаспадарцы трэба канешна, а пачынаць гэту работу трэба ўвосені.

*С. Я—віч.*

*) Глядзі аб гэтым: „Ziemlarobskaja čytanka" inž. A. Klimoviča č. I, na bač. 18.

# Конь патрабуе дагляду.

Мыліўся-б той вельмі, хто думаў бы, што жывёла жыве толькі пашай і пойлай. Гэтага мала. Патрэбна йшчэ, як кажуць, „душа“ гаспадарова, патрэбен ягоны **дагляд**. Вымагае гэтага кожная жывёла, а асабліва жывёла так чуткая, як конь.

Пакуль продкі каня дзіка гулялі па непраглядных сьцяпох, датуль яны самі сабе ўсё патрэбнае здабывалі й помачы ад нікога не патрабавалі. Калі-ж чалавек каня асвоіў, змушаючы яго жыць у варунках ненатуральных, дык гэты конь у некаторых выпадках стаўся незарадным, аддадзеным на ласку гаспадара. Гэта незараднасьць асабліва кідаецца ў вочы пры ўтрыманьні ў здаровым стане ўсяе скуры жывёлы і ейных-жа ног, асабліва капытоў. Дзікі конь, жывучы вольна ў прыродзе, сам чысьціў сваю скуру аб чыстую траву, па каторай качаўся, і аб густое вецьце дрэваў. Той-жа конь не патрабаваў выхіляць і ламаць ног па „культурных“ камяністых дарогах, вольна пасучыся па роўным „прыродным асфальце“ — палёх і лугох. Усё гэта зьмянілася, калі чалавек замкнуў каня ў цёмны, не заўсёды чысты хлеў: тут здароўе каня сталася залежным ад чалавека, каторы, на няшчасьце, далёка не заўсёды разумее свае перад жывёлай **абавязкі**, памятаючы толькі аб правох. Аб гэтых абавязках чалавека мы тут і скажам колькі слоў, ды і то толькі што да ўтрыманьня ў парадку скуры і капытоў

**Скура** каня ня ёсьць нечым непрадышным, сплашным: яе можна скарэй параўняць да нейкага густога рэшата. Праз дробныя дзірачкі гэтага „рэшата“ — скуры адбываюцца дзьве важныя чыннасьці: конь праз іх дыхае і выдзяляе пот. І адно й другое вымагае, каб скура была чыстай. Калі-ж яна чыстай ня ёсьць, дык жывёла, можна сказаць, задыхаецца. Пот-жа, ня могучы натуральным парадкам выйсьці праз скуру наверх, творыць з пылам і гразёй брыдкія гузы — азнакі хваравлівага стану жывёлы.



Прыладзьдзе да чышчэньня скуры: 1. шчотка валасяная, 2. шчотка драцяная, 3. грэбень да расчэсываньня грывы і хваста.

Дзеля ўсяго гэтага гаспадар гадавельнік мусіць старацца ўтрымаць скуру жывёлы чыстай, чысьцячы яе прынамся раз у дзень (лепш раніцай і ўвечары) пры помачы вехця з чыстай саломы, а да гэтага: драцянай шчоткай (толькі дзеля саскрабаньня прысохлага гною), валасянай шчоткай і дзераўляным грэбенем, дзеля расчасаньня грывы й хваста. Няможна пры гэтым забыцца і аб конскіх вачах, якія што дня трэба выціраць чыстай палатнінай. Штодня таксама трэба выцерці трапкай і падхвосьце.



Прыладзьдзе да дагляду капыта: 4. напільнік (рашпля), 5. нож.

Незраўнана больш скамплікаванай прадстаўляецца справа **дагляду конскіх** ног, а лепш сказаць — **капытоў**, якія справядліва называюцца падставай каня. Вартасьць конскага капыта недацэньваецца найчасьцей дзеля таго, што гэтага капыта чалавек у цэласьці ня бача, маючы прад сабой толькі рагавы быццам башмак, у каторым увесь капыт бывае схаваным. За шмат заняло-б месца й часу гаварыць тут аб усіх складовых частках капыта. Таму агранічымся толькі да сьцьверджаньня, што якасьць капыта залежа ад формы рагавага башмака і ад якасьці самога рогу, з якога гэты башмак складаецца.

Што датыча формы рагавага башмака конскага капыта, дык ён бывае ўнізе круглым на нагах пярэдніх і нязначна сьцісьненым з бакоў — на нагах задніх. Рог башмака абыймае капыт з бакоў і сыспаду.



Пастаноўка конскай нагі: 6. капыт правільна абрэзаны, 7. абрэзываньне капыт, 8. капыт за высокі (стромкі), 9. капыт за мяккі (нізкі), 10. капыт нармальны.

Расьце рог бязупынна зверху (ад г. зв. каронкі) ўніз, ператвараючыся ўнізе ў масу больш-менш цьвёрдую, нямывую. Гэту ад-

жыўшую часьць капытнага рогу трэба стала і што 6—8 тыдняў абрэзываць, пачынаючы гэта рабіць ужо ў поўгадовага жарабяці. Да абразаньня служаць асобныя нажы, а да згладжываньня — напільнікі (рашплі). Раговы башмак капыта вельмі кволы і яго трэба старанна даглядаць асабліва тады, калі конь пачынае хадзіць па цьвёрдых дарогах. У гэтым часе недагледжаны капыт каня часта псуецца на ўсё ягонае жыцьцё.

У чым-жа павінен выяўляцца гэты дагляд?

Коратка кажучы: у правільным каваньні і ў чыстым утрыманьні нагі. Справа добрага каваньня каня гэта пытаньне само для сябе вельмі абшырнае і ў нашых варунках блізу ўсецэла залежа ад сумленнасьці і ўмеласьці каваля. Пагаворым аб гэтым іншым разам. Тут-жа прыпомнім аб тым, што залежа ад кожнага гадаўца каня: **аб чыстым утрыманьні конскіх ног.**

З сказанага вышэй аб якасьці капыта можна думаць, што капыт будзе найчасьцей добрым тады, калі будзе здаровым ягоны раговы башмак. Здароўю-ж гэтага рогу вельмі шкодзіць аммоніяк, які выдзяляецца з гною, асабліва калі ён мяшаецца з рознай гразёй асеўшай на гэтым-жа капыце. А калі гэта так, дык і лек супроць такой небясьпекі вельмі просты: трэба конскія капыты штодзень па працы старацца вычысьціць, абмыць, да суха выцерці і трымаць на сухой падсьцілцы. Ня можна аднак мыць капытоў каня сагрэтага — трэба пачакаць — бо можа тады здарыцца ахват.

Іншай урэшце ёсьць яшчэ справай **сухі, крохкі рог капыта**. Гэта ўжо ёсьць свомасьць прыродная, якую чалавек часта нясьведама павялічвае няўмелым лячэньнем: мазаньнем празнымі шмарамі (дзёгцям, воскам) і клустасьцямі, якія да рогу недапускаюць вогкасьці і таму яшчэ больш яго сушаць. Вот-жа ў гэткія крохкія капыты трэба канешна ўціраць адну толькі клустасьць, **лянолін**, якая атрымоўваецца з авечай воўны і якая адзіная мае тую свомасьць, што ўпівае ў сябе вогкасьць, а тым самым робіць капыт пружным, элястычным. Капыт прад тым трэба старанна і насуха вычысьціць, пасьля намазаць лянолінам і пры канцы ўціраць гэты лянолін у рог капыта чыстай суконкай аж да суха. Паўтараецца гэта штодзень праз 6—7 тыдняў.

А. К.

*ГРАМАДЗЯНЕ! Прысылайце адказы на пытаньні замешчаныя ў афтыкуле „Як далей быць?“ у № 10 «Самапомачы», найпазьней да 10 сьнежня сёлета!*

*РЭДАКЦЫЯ.*

# Раньняе цялё гадаваць найлепш.

З кожнага цяляці можна выгадаваць карову. Але практыка паступовых гаспадароў паказала, што найлепш гадаваць цялё з познавосенскага і рана-зімовага цяленьня (месяцы: кастрычнік—сьнежань). У гэту пару народжанае цялё, калі толькі мае прасторнае сьветлае, цёплае і сухое памяшчэньне, дык праз зіму на гэтулькі вырасьце, што з раньняй вясны ўжо можа йсьці на пашу разам з усей скацінай. Да таго-ж гаспадар і гаспадыня ўзімку маюць больш часу і могуць лепш дагледзіць племнае цялё. А старанны дагляд цяляці зараз ад першага дня жыцьця і пасьля прабываньне яго на вольным паветры на пасьбішчы — гэта варунак удачы кожнай гадоўлі.

Але вернемся назад і зазначым колькі важнейшых мамэнтаў з гадаваньня цяляці:

Родзіцца цялё слабым. Першае, што ёсьць канешным, гэта падсунуць яго пад матку, каб аблізала. А калі гэтага рабіць яна не сьпяшаецца, дык цялё трэба пасыпаць вотрубамі — паможа.

Скрозь і кругом у нас прынята, што праз першыя тыдні цялё соіцца пад каровай і шмат для каго будзе хіба вялікім дзівам, калі сказаць, што *найлепш адстаўляць цялё ад каровы зразу ад першага дня.* Пэўна-ж, гадаваньне цяляці „пад каровай“ шмат каму выдаецца выгаднейшым, лягчэйшым, але мае яно й свае нявыгоды: ніколі няведама, ці карова мае досыць малака для цяляці, ці мала. Цялё, якое сьсе само, раз можа перассацца і тады цяжка хварэе, а іншы раз тое-ж цялё галадуе. Кармленьне цяляці пад каровай заўсяды азначае страту малака, а для самага цяляці гэткі спосаб кармленьня вельмі шкодны і тым, што цялё, ссучы пад маткай, перагібаецца ў хрыбце і часта калечыцца на ўсё жыцьцё. А калі прыйдзе час адлучаньня такога цяляці ад маткі, дык яго адвучыць цяжэй, чым можна было гэта зрабіць зразу пасьля нараджэньня, калі цялё да ссаньня зусім ня прывыкала. Апрача пералічаных, ёсьць яшчэ шмат іншых прычын, дзеля якіх выгадней адлучаць цялё ад маткі адразу пасьля нараджэньня. Трэба толькі пры выдойваньню малака і пры кармленьні цяляці захаваць чыстату і дакладна прытрымліваецца сталага часу, у каторы цялё корміцца. Гэта ёсьць варунак канешны, а ад чыстаты таксама залежа і якасьць малочных прадуктаў.

Дзеля апаражненьня нованароджанага цяляці ад г. зв. „смолкі“, канешным ёсьць малозіва. Таму ня добра робяць тыя, што малозіва ад цяляці „адкрадаюць“.

Усюды там, дзе цялё соіцца пад каровай, трэба па кожным саеньні выдойваць карову да чыста.

Пры адстаўляньні цяляці зараз пасьля нараджэньня важнай ёсьць рэчай устанавіць,

колькі гэта цялё патрабуе пойлы і як часта яе даваць.

Вот-жа правілам павінна быць, каб цялё напівалася да сыта, гэта знача, каб ягоныя бакі выраўняліся, але ня ўвыпукляліся Што да частасьці паеньня, дык тут правіла такое: наагул лепш даваць порцыі меншыя, але часьцей. Пры гэтым: чым цялё маладзейшае, тым часьцей мусіць даставаць пойлу. Практычна гэта выглядае так: паіць цялё цёплым малаком адразу пасьля кожнага даеньня: г. зн. тры разы ўдзень. А апрача таго паіць цялё каля гадзіны 9-ай рана і 3-яй па абедзе малаком падагрэтым да цяпліні малака сьвежанадоенага, г. зн. больш-менш 33⁰ Ц.

Да трох тыдняў цялё мусіць атрымоўваць поўна-сытнае малако. На трэцім тыдні можна поўнае малако мяшаць напалову з падагрэтым чыстым малаком спад цэнтрафугі, з дамешкай варанай заціркі з ляннога макуха, або мукі ячменнай ці пшанічнай. Гэту пойлу, калі хапае малака, можна даваць праз усю зіму, аж пакуль цялё пойдзе вясной на пасьбішча. На 5-тым і 6-тым тыдні цялё пачынае ўжо есьці добрае салодка-мурожнае сена ды канюшыну, а па двух месяцах такому цяляці можна ўжо даваць і пашу: дзьве жмені сечкі, колькі сырых, на тоненькія лісткі парэзаных бульбін з мучной абсыпкай.

Знакам правільнага ўзгадаваньня цяляці ёсьць ягоныя вясёласьць, ахвота да пашы і гладкасьць поўсьці.

Пры ўсім гэтым ня можна забывацца, што добрае ўзгадаваньне цяляці залежа ад стараннасьці ды добрага й лагоднага абходжаньня з ім гаспадара, ці наагул тэй асобы, якая цялём апякуецца. **А. К.**

# Жыды купляюць зямлю.

Польскія газэты паведамляюць, што на самых толькі абшарах заселеных беларусамі ў Польшчы жыды гаспадараць сягоньня ўжо больш як на 50.000 га. З гэтага блізу палавіна абшару належыць мае да жыдоў на ўласнасьць, рэшта — ў арэндзе. Найбольш жыдоўскіх земляробскіх гаспадарак ёсьць у Сьвянцяншчыне —385. Далей ідуць раёны ў такім парадку: Троцкі—343, Ашмянскі—324, Тургельскі — 276, Ваўкавыскі — 265, Беняконьскі — 262, Мёрскі — 252, Лідзкі—234, Слонімскі — 231, Глыбоцкі — 182, Варнянскі — 161, Браслаўскі — 134, Вялейскі—76, Кальварыйскі—67, Радунскі—53, Дуброўскі—42, Падвіленскі (г.зв. „Вялікая Вільня“)—30 і г.д.

За сьцісласьць гэтых лічбаў адказнасьці не бяром. Але сам факт пераходу зямлі ў нашым Краі ў рукі жыдоўскія — як і наагул у чужыя — трэба ўважаць з пункту гледжаньня адвечнага беларускага жыхара нашых зямель за вельмі небясьпечны. Вёска наша й так задыхаецца ад беззямельля. А тут ей спад носу ўцякае зямля ў рукі чужыя. Супроць гэткае небясьпекі не паможа ніякае раздуваньне ненавісьці да каго-б там ня было. Выхад згэтуль можа быць толькі ў асьвеце — школьнай і пазашкольнай — і ў неадкладным гуртаваньні нашага сялянства ў свае беларускія арганізацыі. Чакаць няможна!

# Як трымацца ў хваробах сэрца?

Шторазь часьцей здараюцца выпадкі „наглай (раптоўнай) сьмерці“. Найчасьцей прычынай гэтага бывае хвароба сэрца, якая астаецца звычайна пасьля розных заразных хвароб, як тыфус, грыпа, а так жа бывае рэзультатам лёгкамыснага жыцьця і празмернага ўжываньня спорту. Пачынаецца хвароба памалу і аб'яўляецца лекарам найчасьцей выпадкова, пры лекаваньні хвароб іншых. Праявы трывалай хваробы гэта розныя шмэры, якія паўстаюць з кепскага замыканьня сэрцовых каморак, а так жа набракненьне ног—рук ды цяжкое дыханьне.

Лекаваньне сэрцовых хваробаў ня ёсьць лёгкім, але ня ёсьць і безнадзейным. Больш таго: калі хворы ўздабудзецца на рэгулярнае жыцьцё, будзе дбаць аб адпаведную страву й рэгулярнае штодзеннае апаражніваньне, дык пажыве даўгія гады ў добрым самапачуцьці. Хто пры гэтым парадзіцца ў лекара спэцыяліста і ягоныя рады стасаваць будзе ў жыцьці—вельмі добра. Заўсяды аднак удача такога лекаваньня будзе залежыць ад таго, як хворы патрапіць ашчаджаць сілу сэрца: гэта ёсьць найтанейшы і найдаступнейшы лек. Дзеля гэтага:

1. Трэба рэгулярна пераплятаць духовыя й фізычныя перажываньні з адпачынкам і сном.
2. Ніколі ня можна перацягіваць струны перамучаньня.
3. Бяздзейнасьць духовая й фізычная шкодзіць асабліва людзям цяжкім, лянівым, маючым нахіл да празмернага піцьця й яды.
4. Хлопаты ўсякія маюць уплыў на звапненьне жылаў і аслабленьне сэрца. Таму хворы на сэрца павінен навучыцца глядзець на сучасныя здарэньні так, як быццам яны мелі-б мець месца нейдзе й далёкай мінуўшчыне.
5. У памешканьні павінна быць заўсяды досыць добрага сухога й чыстага паветра. Гэтым самым шкодна для хворага на сэрца памешканьне сырое, у сутэрэнах, а таксама памешканьне над скляпамі (паграбамі). Памешканьне на высокіх паверхах шкоднае тым, што змушае хворага часта хадзіць па сходах.
6. Ня можна радзіць хвораму на сэрца, каб меў памешканьне ў горах вышэйшых за 500 мэтраў над морам. Таксама небясьпечны для такога хворага: прабываньне над морам і язда караблём і аэраплянам.
7. Урэшце хворы на сэрца павінен: а) аграпічыць час свайго прабываньня на сонцы, б) высьцерагацца празмернага піцьця і яды, в) аграпічыць курэньне наагул і станоўча ня курыць нашча і прад сном, г) не насіць цеснай адзежы. **Др. Э. В.**

*PČALARSTVA*

# Pierachoŭvańnie vaščyn zimoju i zabieśpiačeńnie pčalarskich pryładaŭ.

U staroj systemie pčalarskaj haspadarki vosk i vaščyna byli adnym z važnych praduktaŭ dachodnaści bortnika. I ničoha dziŭnaha. Staraśvieckaja haspadarka viała da adnaho: łamańnia ŭ vasieńnim sezonie pčalinaj budoŭli, ništažeńnia amal usiaje mazolnaje pracy mnohatysiačnaj siamji. Heta časta jšče bačym i siańnia. Masu vyrezanych plastroŭ z piarhoju, časta i z čeram dy pčołami, staŭlali ŭ sahanie ŭ piečy i hetkim čynam „fabrykavaŭsia" miod i vosk. Peŭna ž, pradukcyja vosku ŭ hetkaj prymityŭnaj pčalarskaj haspadarcy jošć kudy bolšaju, čym u haspadarcy racyjanalnaj, dzie hałoŭny nacisk kładziecca na pradukcyju miodu. I susim pravilna. Pradukcyja vosku zaleža ad šmatlikich umovaŭ pčalinaje siamji, ad siły pnia, temperatury ŭnutry i navonki hniazda, ad miery padadzienaje ježy. Vučonyja pčalary savieckija (Karabloŭ) i polskija (O. Čynka) dakazali, što na vypradukavańnie adnaho kilohrama vosku pčoły źjadajuć 32 klhr. miodu. Razumiejučy tak vysokuju vartaść vosku ŭ paraŭnańni z miodam, haspadarny bortnik budzie staracca vyrablać vosku jak najmienš. Heta adnak možna pravieści tolki ŭ vulloch ramovych i pry tasavańni štučnaje vaščyny (vuzy). Nie aznačaje heta zusim, što ŭ racyjanalnaj haspadarcy byccam vosku całkom niama. I tut pry aščadnaj dy ŭmiełaj haspadarcy možna na sobskija patreby pčalnika vytvaryć dosyć vosku. Tre' tolki kožnuju kryšynku tak cennaha matarjału źbirać dy składać u adumysłovyja sudziny, a z hetaha možna budzie papoŭnić našyja patreby.

Dalej, u pastupovaj pčalarskaj haspadarcy tre' źmianiać hniazdo što 4—5 hadoŭ; vykidajučy vaščyny staryja, čornyja, jakija nie prapuskajuć sonečnych kasulaŭ. Takija vaščyny nia možna pakidać u vulli. Usilenaja dziejnaść matki ŭ čas sezonu abyjmie i hetyja vaščyny, a novaje pakaleńnie, vyrasłaje ŭ ciesnych čarkach pakryŭlenaje vaščyny, degenerujecca (vyradžajecca) i rasa pčoł što hod nistažeje. Hetkija vaščyny bortnik pavinien u sezonie źmianić novymi, śviežymi. Ciapier, u vosieni, kali jošć bolš svabodnaha času, treba prystupić da pieratopki starych vaščynaŭ i inšych abłomkaŭ, kab zimoju nie zmarnavalisia. Pierataplajecca vaščyna ŭ adumysłovych sudzinach i vyžymajecca ŭ adumysłovych presach (ciskoch).

Zapasnyja ramki z dobraj vaščynaj heta kapitał pčalara. Dyk tre' ŭ zimovy čas hetkija plastry jak najstarańniej ahledzić, kab nie sapsavalisia. Plastry patočanyja matylicaj treba pieratapić na vosk i pierarabić na vuzu. Zapasnyja vaščyny treba pierachoŭvać starannа ŭ **ščylnych** šafach ci skryniach, kab nie dastałasia matylica. Nadstaŭki Dana Blatta najlepš stavić adnu na druhuju, prykryvajučy znizu i vierchu specyjalnymi dnami. Možna tak-ža prykryvać i hazetnaj papieraj — matylica nia lubić śviežaje drukarskaje chvarby. Tak zabiaśpiečanyja vaščyny (plastry) z prybližeńniem viasny treba niekalki razoŭ zdezynfekavać (ačyścić) dymam palenaje sierki, ci kamfory.

Plastry z miodam, praznačanym da viesnavoj padkormki, taksama patrabujuć apieki. Miod, jak viedama, upivaje z pavietra vadzianuju paru. Dziela hetaha ramki z miodam staŭlajem u suchoje, z niaźmiennaj temperaturaj miesca.

Tak zabiaśpiečany, dobra pašyty miod moža śmieła stajać niascukravany až da viasny. Matylica zakładaje svaje hniozdy i raźvivajecca tolki ŭ takich plastroch, dzie jošć reštki miodu abo kašulki raspłodu. U čystych i suchich vaščynach jana nie viadziecca.

Aprača konservacyi plastroŭ, treba, pakul jašče ciopła, źviarnuć uvahu na stan našych vulloŭ, jakija pry dobraj konservacyi stajać siarednie da 20 hadoŭ, a pry nijakaj — nia bolš vaśmioch. Dyk u ciopłyja vasieńnija dni treba admalavać ich alejnymi chvarbami, pazakitoŭvać usie dziry i ščeliny. Taksama pakryć treba streški matarjałam adpornym na hnil. Najlepšym matarjałam źjaŭlajecca cynkavaja blacha.

Inšyja pryłady pčalarskaj haspadarki treba taksama dobra na zimu zakonservavać. Maju tut na dumcy miadahonki i sudziny na miod. Miadahonka źjaŭlajecca adnej z važniejšych i daražejšych pryładaŭ našaje pracy. Na zimu stavim jaje dobra ačyščanuju ad iržy i miodu ŭ suchoje miesca. Metalovyja častki treba dobra pamazać vazelinaju abo inšym šmaram. Bočki i inšyja sudziny praznačanyja na miod, dobra asušvajem i navonki malujem haračym pokastam, kab byli adpornyja na źmienu syraści pavietra i ŭdziaržali svaju całaść. Miod u bočkach scukravany staŭlajem u suchija miascy biaz čužoha zapachu. Dymniki, skrabački, filtry i sietki treba ačyścić ad usiakaha brudu, častki dzieraŭlanyja pamalavać, metalovyja abciahnuć tonka alivaj abo vazelinaj.

Ciapier tak ža vielmi adpaviedni čas da vyrabu novych vulloŭ. Ab hetym nia treba du mać, a prystupajučy da pracy, vybrać najlepšy typ vulla i staracca, kab u pčalniku byli ŭsie vulli adnej systemy. Takim standartnym vullom źjaŭlajecca ŭ Amerycy, ZSSR, Niamieččynie i Biełarusi vullej Dadana-Blatta. Z hetaj systemaj zaznajomicca pavinien kožny biełaruski pčalar.

Urešcie vasieńnija śviaty vykarystać treba na adviedvańnie susiednich pčalnikoŭ i na hutarki ab pčalarskich spravach — imknučysia da pčalarskaje biełaruskaje arhanizacyi.

**V. Papucevič.**

# ГАСПАДАРСКАЯ ХРОНІКА

**Новы закон аб зямельным падатку.** У „Dz. U." № 85 зьявілася распараджэньне Прэзыдэнта аб зямельным („грунтовым") падатку. Распараджэньне гэта ўходзіць у сілу ад дня 1 студня 1937 г. і на нашых землях прадбачыць падатак ад 19 грашоў да 10 зл. 46 гр. за кожны гэктар, залежна ад катэгорыі грунту. Апрача таго, хто плаціць гэткага падатку больш за 110 зл. ад грунтоў паложаных у граніцах аднаго павету, таму далічвацца будзе йшчэ гэтак званы падатак прагрэсыўны — ад 10 да 100 працэнтаў. І наадварот, платнікі найменшага(?) падатку маюць атрымоўваць палёгкі ад 20 да 50 працэнтаў.

Да зямельнага падатку дзяржаўнага („паньствовага") будзе далучацца йшчэ ад 50 да 75 прац. як падатак самаўрадавы (гмінны і інш.). Так-жа ў залежнасьці ад дзяржаўнага зямельнага падатку будзе вызначацца падатак дадатковы („вырувнавчы") і розныя складкі ў натуры (шарваркі, ссыпкі і інш.).

Ад дзяржаўнага зямельнага падатку на стала звольнены: 1. дзікія няўжыткі, 2. грунты ўжываныя для бездаходных заняцьцяў: навуковых, школьных, вайсковых, рэлігійных (могілкі, цьвінтары). Часова звольнены ад дзяржаўнага зямельнага падатку: 1. некаторыя вёскі скамасаваныя — на 3 гады, 2. загаспадараваныя няўжыткі — на 5 гадоў, 3. лясы „ахронныя" — ад 1.І.1938 г., 4. няўжыткі засаджаныя лесам — ад 30 да 50 гадоў.

**Стан жывёлагадоўлі ў Віленшчыне.** Ад двух гадоў у нашай земляробскай гаспадарцы даецца заўважыць пераход ад збажжовай гаспадаркі да жывёлагадоўлі. У выніку гэтага даецца заўважыць раз-большы, іншы раз меншы прырост жывёлы за апошнія гады. Выразна гэта відаць у наступнай табліцы, састаўленай паводле гадоў, ад 1934 да 1.VII.1936 г. для чатырох галоўных гатункаў жывёлы. Лічбы пад кожным годам: 1-я азначае абсалютны лік у тысячах штук, а другая — %% ў адношаньні да стану 1934 г.

| Гады | 1934 | | 1935 | | 1936*) | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Жывёла | Лік аб сал. у т. шт. | Лік у проц | Лік аб сал. у т. шт. | Лік у проц. | Лік аб сал. у т. шт | Лік у проц. |
| Коні | 199.5 | — | 197.6 | 100 | 203.9 | 103.1 |
| Скаціна | 435.0 | 100 | 470.7 | 108.2 | 493.1 | 113.3 |
| Авечкі | 457.5 | 100 | 506.1 | 110.6 | 565.9 | 123.7 |
| Сьвіні | 278.9 | 100 | 341.1 | 122.5 | 416.4 | 150.0 |

Што да асобных паветаў, дык лік коняў найбольш павялічыўся ў паветах: Дзісенскім і Маладэчанскім; скаціны і авечак—у Вялейскім і Пастаўскім; сьвіней — у Сьвянцянскім, Пастаўскім, Браслаўскім і Вялейскім.

Усяго ў Польшчы на дзень 1.VII 1936 г. было: коняў — 3.023 тыс. шт. (найбольш на Валыні), скаціны — 10.167 тыс. шт. (найбольш у Львоўскім ваяв.), сьвіней—7.055 тыс. шт. (найбольш у Люблінскім ваяв.), авечак—3.020 тыс. шт. (найбольш у **Віленскім** ваяв.), козаў —378 тыс. шт. (найбольш у Пазнанскім ваяв.).

**Продаж жывёлы на вагу.** Выйшла новае распараджэньне, якое загадвае прадаваць усякую жывёлу, жывую і бітую, толькі на вагу на тых рынках, дзе ёсьць адумысловая вага. Абавязак такога важаньня ляжыць на тэй асобе, якая прадае жывёлу. Ад абавязку важаньня звольнены: сысуны, парасяты, ягняты, а так-жа жывёла акалечаная, якую трудна даставіць да вагі.

Пры продажы жывёлы на бітую вагу трэба разумець: а) у скаціны й авечак—астуджаную тушу, бяз крыві, скуры й галавы, нутранасьцяў, пярэдніх ног абрэзаных у надкапытных суставах і задніх ног абрэзаных у суставе скакавым; b) у сьвіней бітай вагай разумеецца туша бяз крыві, шчаціны, языка, нутранасьці; ныркі-ж і сала каля нырак заусёды лічыцца да тушы.

**Абніжэньне дзяржаўнага падатку ад мяса** на абшары Віленшчыны, Наваградчыны, Беласточчыны Палесься і Валыні абвешчана Прэзыдэнцкім дэкрэтам (D U. № 84, 5.XI.36). Паводле гэтага дэкрэту, пачынаючы ад дня 19 лістапада 1936 г., устанаўляюцца гэткія падаткі ад убою: ад аднэй штукі скаціны — 1 зл. 50 гр., ад аднаго цяляці — 25 гр., ад аднэй сьвіні — 75 грашоў.

**Вываз індыкоў.** У палове лістапада пачаўся вываз выкармленых індыкоў. З кругоў купецкіх перасьцерагаюць, каб гаспадары і скупшчыкі вывозных індыкоў ня зьвязывалі ім крыльляў, бо гэта псуе гатунак мяса, а тымсамым зьбівае ўдол і цану за яго. У Беласточчыне сарганізаваны ўжо спэцыяльныя таргі (згоны) на індычы тавар.

**Лекарскіх зёлак** на абшары Віленшчыны і Наваградчыны з 1935 г. было сабрана 650.000 кілёграмаў. З гэтага каля 300.000 кілёграмаў было вывезена заграніцу, каля 250.000 кілёграмаў было прададзена краёвым аптэкам і фармацэўтычным фабрыкам і каля 100.000 кілёграмаў асталося ў запасе на 1936 г. — Нашы землі, як ведама, вельмі багатыя на зёлкі і з гэтага яны знаныя ня толькі ў Польшчы, але і далёка заграніцай.

**Мэліорацыя і комасацыя ў Ашмяншчыне.** За мінулы сёлетні сэзон (лета) на абшары Ашмянскага павету было асушана цалкам 700 гэктараў балот, якія абняты плянам адначаснай комасацыі (пераходу на хутары). Пры гэтым было выкапана 8 кілёмэтраў ка-

*) да 1.VII 1936 году.

## Дробныя рады.

**Як перахоўваць яйкі зімой.** 1. Зусім сьвежыя яйкі складаюцца ў скрынках драўляных або ў гліняных гаршкох, перасыпаюцца пластом мякіны, тоўчаным вуглём (з дрэва), попелам, або звычайнай кухоннай соляй. Яйкі мусяць быць уложаны так, каб не датыкаліся адно да другога. Наверх насыпаецца прынамся на 5 см. грубіні гэнага ж „перасыпнога матар'ялу". Перахоўваць трэба ў месцы зімным, але забясьпечаным ад марозу.

2) Літр нягашанай (паленай) вапны распусьціць у 10 літрах вады. У гэтым разчыне мачаць сьвежа зьнесеныя, але ўжо астыўшыя яйкі і выносіць на паветра, каб як найхутчэй абсохлі. Паўтарыць гэту работу трэба чатыры разы і трымаць яйкі ў месцы зімным, але недаступным для марозу. Трэба аднак зазначыць, што гэткія яйкі не надаюцца варыць на суха, бо іх шкарлупка лопае ў гарачай вадзе.

3) Яшчэ адзін спосаб — пры помачы вадзянога шкла (можна дастаць у аптэцы). Яйкі зложаныя ў шчыльную пасудзіну заліваюцца разчынай вадзянога шкла ў вадзе. На 2 часткі вады бяром 1 частку вадзянога шкла. Смак і якасьць яйка не зьмяняецца.

Да ўсіх гэтых спосабаў трэба браць добрыя яйкі, якія пазнаём гэтак: у кубку вады распускаем дзьве лыжкі звычайнай солі і пачарзе пускаем туды яйкі: яйкі, якія патонуць аж на дно ёсьць найлепшымі і надаюцца для перахову; яйкі, каторыя плываюць на версе, або патанулі толькі да палові кубка, на перахоў не надаюцца, трэба іх як найскарэй спажываць.

**Каб не ржавела.** Добры гаспадар сочыць за тым, каб ягоная жалезная гаспадарская снасьць праз зіму не ржавела. Ёсьць на гэта ня мала спосабаў. Найтанейшым аднак і найдаступнейшым ёсьць хіба спосаб наступны: з паленай (нягашанай) вапны робіцца густы раствор, каторым і націраюцца, старанна прад тым ад балота, іржы і ад пылу ачышчаныя, немаляваныя жалезныя сучасткі гаспадарскай снасьці, як паліцы і нарогі ад плугоў і сохаў, зубы ад баронаў і г.д. Зразумелая рэч, што гэтак вапнай намазаныя жалезныя сучасткі гаспадарскай снасьці павінны стаяць у суху, бо дождж і сьнег вапну змыў-бы, а снасьць ад гэтага пакрылася-б іржой.

**Сырая капуста як лякарства.** Нямецкі дохтар Рэмэр праз доўгі час дасьледжваў уплыў розных лякарстваў на хворых рэўматыкаў і „ўдушлівых" (дыхавіца, астма). Ён заўважыў, што ім найлепш памагала звычайная квашаная сырая капуста. І ён радзіць хворым на гэтыя хваробы зьядаць штодзень па 1 фунту сырой капусты. Толькі хворы спачатку мусіць прызвычайвацца ад малых колькасьцяў спажываньня капусты. Дохтар Рэмэр гэтым спосабам многа хворых вылячыў ад роўматызму і дыхавіцы.

**Карасіна як лякарства.** У Турцыі ўжо даўно народ ужывае карасіну як лякарства проціў усялякіх хвароб у суставах. Хворыя часткі цела націраюцца штодзень карасінай і боль па нейкім часе перастае. Гэтай справай зацікавіўся адзін турэцкі дохтар і з вялікім паводжаньнем праз 40 гадоў лячыў карасінай хворых на рэўматызм. Хворыя мясцы ён загадываў націраць ропай карасіны (гэта неачышчаная карасіна) і хворыя выздараўлівалі.

**Поснае малако і сьмяротнасьць дзяцей.** Новы рэктар Віленскага Унівэрсытэту, праф. Якавіцкі, апіраючыся на доказах доц. Шульца, у уступной сёлетняй лекцыі між іншым заявіў, што малачарскі промысел ёсьць пасярэдняй прычынай узросту сьмяротнасьці дзяцей. У Пазнаншчыне, у якой малачарскі промысел вельмі разьвіты, сьмяротнасьць дзяцей даходзіць да 13.3 прац., тады як у Віленшчыне, дзе промысел малачарскі толькі пачынае разьвівацца, працэнт гэтай сьмяротнасьці выносіць толькі 10.2. Тлумачыцца гэта быццам тым, што ў Пазнаншчыне ўсё малако йдзе ў малачарні і дзеці кормяцца там толькі малаком посным, спад цэнтрыфугі, тады як у Віленшчыне дзеці дастаюць малако поўнае.

Ёсьць гэта яшчэ адзін доказ, што поснае малако павінна быць толькі пашай для жывёлы: людзі, а асабліва дзеці павінны карміцца малаком поўным.

---

налаў і равоў, агульная кубатура (абыймо) каторых выносіць 21.000 кубічных мэтраў.

**Хлапоты з лёнам.** Аб ніклых рэзультатах лянной акцыі даведваемся з мэморыялу Віленскага Ляннога Т-ва: прывоз з заграніцы ў Польш бавоўны і юты ад 1933 г. замест паменшыцца, павялічваецца, забіраючы на гэта ў 1935 г. аж 115 мільёнаў злотаў. У гэты-ж час Польшч заплаціла 6.750.000 зл. за прывезеную з заграніцы юту і 80.000.000 зл. за стуль-жа прывезеную воўну. Пададзеныя лічбы выразна паказваюць, што з лянной гаспадаркай у Польшчы і далей нeяк няцікава, хоць на словах усё быццам добра й складна.

**Прырода-паляўнічы рэзэрват у Замошшы, Дзісенскага пав.** Глыбоцкі Аддзел Краезнаўчага Т-ва пачаў стараньні аб утварэньні ў лясох Замошшаўскага двара на абшары 1.500 га прырода-паляўнічага рэзэрвату. Крок гэты мотывуецца тым, што на р. Чэрніцы знаходзяцца гнёзды баброў, ды што на гэтым-жа абшары спатыкаюцца ў невялікім ліку ласі, а так-жа некаторыя рэдкія расьліны, якіх няма ў іншых мясцох краю.

Redaktar inž. A. KLIMOVIČ Vydaviec A. DASIUKIEVIČ
Z upavažnieńnia Biełaruskaha Instytutu Haspadarki i Kultury ŭ Vilni.
Biełaruskaja Drukarnia im. Fr. Skaryny, Vilnia, Zavalnaja 1 — 2.

*Kutok dla haspadyń.*

# Chłapoty haspadyń u vosieni.

Chaču padzialicca z haspadyniami, svaimi praktyčnymi radami praz „Samapomač," bo my, biełaruskija žančyny, svajho časapisu nia majem. Dyk budziem karystacca choć maleńkim kutočkam pryśviečanym dla žančyn u „Samapomačy" i čas ad času budziem dzialicca svaimi dumkami.

Uvosieni haspadynia musie usio toje, što sabrała z pola i z aharodaŭ, razłažyć razumna, kab chapiła na cełу hod prakarmić siamju i žyviołu.

Jak zmałociać zbožža i ŭsio źbiaruć z aharodaŭ, dyk treba vyrachavać, kolki treba usiakich praduktaŭ na pražyćcio siamji i žyvioły na miesiac, a tady budzie lahčej vyrachavać zapatrebavańnie na cełу hod.

## Paradkavańnie miasa.

Naša haspadynia stolki maje trudoŭ pakul vyhaduje jakoje-niebudź śvinčanio, a jak vyhaduje, dyk paśla maje chłapoty, jak jaho sparadkavać, kab jano było smačnaje i tryvałaje. Ciapier para na miasa ci lepš — na saleńnie jaho. Nikoli nia možna salić miasa ciopłaje, treba abaviazkava, kab jano astyła. Paśla treba adabrać šynki, łapatki, palandvicy, skaby i pryhatavać sol i roznyja dadatki

Kolki užyvać soli, — zaleža ad vieku i vahi zakołataj štuki. Kali parsiuk daje 80 kg. miasa, dyk treba 1 kg. soli na kožnyja 25 kg. miasa, a kali miasa majem 100 kg., dyk tady treba 1 kg. soli na 22 kg. miasa; pry 120—150 kg. miasa dajecca 1 kg. soli na kožnyja 20 kg. miasa, a pry vyžej 150 kg. miasa dajecca 1 kg. soli na kožnyja 18 kg. miasa. Na kožny 1 kg. soli ličycca 1 deka saletry, 8 deka cukru, 1 deka piercu prostaha, 5 gr. babkovaha listru, 3 gr. kalandry, 5 gr. piercu anhielskaha 5 gr. hvaździki i hałoŭku časnaku. Miasa treba razłažyć na stale, abo na vialikaj načoŭcy. Spačatku nacirajecca jano saletraj z małoj damieškaj cukru, a sol miašajecca z usimi dadatkami i taksama ŭcirajecca ŭ miasa.

Sudzinu praznačanuju da saleńnia treba staranna vymyć i vysušyć i tady tolki składać miasa.

Na dno treba składać šynki, a paśla usiakuju drabiazu. Šynki da kaśći treba parazrazać, kab lepš mahła tudy dajści sol Najlepiej salić u bočcy, abo ŭ cebry, dziela taho, što možna pałažyć denka i kamień. Hetak pryhatavanaje miasa treba, kab pastajała ŭ ciopłym miescy dla razpuščeńnia soli, a paśla nakryć denkam, nacisnuć kamieniem i vynieści na miesca zimnoje. Šynka musić salicca 6 tydniaŭ, a palandvicca - 6 dzion, bačok — 15 dzion.

Š. M.



# Усячына.

Куды падзеліся Белавескія зубры? Прад вайной у Белавескай пушчы было многа на ўвесь сьвет слаўных зьвяроў — белавескіх зуброў, далёкіх продкаў і сваякоў нашае скаціны. Сягоньня ў гэтай-жа пушчы ёсьць усяго 13 зуброў, з якіх чыстай крыві белавескіх ёсьць толькі дзьве каровы; рэшта—прывезеныя з Каўказу. Каб ня зьвёўся род нашых зуброў, дырэкцыя казённых лясоў выменяла летась з Швэцыі двух зуброў — стаднікаў, якія быццам паходзяць беспасярэдна з Белавежы: пехатой у Швэцыю яны хіба-ж не дасталіся. Гэтак выпадкова даведваемся, як растрасаецца наша народнае дабро па ўсім сьвеце.

75 гадоў тэлефону. 26 кастрычніка сёл. мінула 75 гадоў ад таго часу, калі ў 1861 г. нямецкі вучоны фізык Пілiп Райс першы раз гаварыў праз тэлефон, каторы ён сам і выдумаў. — Тэлефонам сягоньня карыстаецца ўвесь культурны сьвет. Нашы блізкія суседзі Латышы, Эстонцы, Фіны маюць тэлефоны блізу ў кожнай хаце, бо і цана за гэткае карыстаньне там дастасавана да гаспадарскіх магчымасьцяў мясцовага жыхарства.

У Польшчы тэлефоны ўсьцяж рахуюцца, можна сказаць, прадметам збытку: карыстаньне ім вельмі дарагое і таму мала хто на гэта можа пазволіць. На гэткай дарагоўлі зарабляе вялікія сумы акцыйная тэлефонічная супалка, якая вядзе сваё прадпрыемства на выгодных для сябе правох манаполю. А што гэтыя „правы„ сапраўды выгодныя, відаць з таго, што ад часу, калі гэты манаполь быў заведзены (у 1927 г.) і да 1934 г. даход гэтай супалкі выносіў 24 (дваццаць чатыры) мільёны злотаў.

Гора муча, гора й вуча. Далёка на поўначы ёсьць востраў Ісляндыя, т. зв. „лядавая зямля," бо амаль ня ўся пакрыта лёдам.

Насельніцтва 100 тысяч займаецца пераважна рыбалоўствам і гадоўляй скаціны.

Вялікай іхняй бядой ёсьць нястача апалу, бо ня маюць сваіх ані лясоў, ані вугля, а дзякуючы нізкай тэмпэратуры ўжываюць апалу шмат, які мусяць прывозіць з Эўропы

Але ў Ісляндыі ёсьць крыніцы гарачай вады (кіпятку), якія паўстаюць ад вульканаў бесперарыўна выбухаючых з глыбіні зямлі. Вось Ісляндцы і хочуць выкарыстаць гэты вечны кіпяток для аграваньня памешканьняў такім спосабам: пабудуюць вялікія трубы, абкручаныя асбэставым палатном, каб не прапускалі цяпла, і гэтак кіпяток правядуць у места, сёлы, і будуць гэтак аграваць паасобныя памешканьні. Мала гэтага: ісляндцы хочуць пусьціць трубы густой сеткай і на поле, каб агрэць і паверхню зямлі. Яны вераць, што на агрэтай так зямлі будзе можна садзіць бульбу, сеяць жыта, ячмень і інш. расьліны, каторыя не ўдаваліся дагэтуль з прычыны кароткага і зімнога лета.

Італьянцы-ж цяпло свайго вулькана Вэзувія хочуць запрагчы ў маторы розных фабрычных машын.

Хто і колькі спажывае яёк? Яйко гэта вельмі цэнны спажывецкі прадукт. Дзеля гэтага, прыглядаючыся і раўнуючы лік спажываных яёк у паасобных краёх, можна да некаторай меры сабе прадставіць, як хто дбае аб сваё аджыўляньне. І так:

Найбольш яёк спажываюць жыхары Канады (у Паўн. Амэрыцы): на аднаго жыхара выпадае там у год аж 340 штук яёк. Далей, на кожнага жыхара: Ірляндыі выпадае 266 яёк, Злучаных Штатаў Паўночнай Амэрыкі — 250, Бэльгіі — 212, Галяндыі — 200, Англіі і Даніі — па 143, Швайцарыі — 129, Нямеччыны — 118, Норвэгіі — 106, Гішпаніі — 96, Чэхаславаччыны — 94, Аўстрыі і Баўгарыі — па 86, Польшчы — 72 яйкі.

Падобна стаіць справа і з лікам курэй у паасобных краёх: калі ў Польшчы на аднаго жыхара выпадае сярэдне 1.6 курыцы (крыху больш як паўтары), дык у такой Ірляндыі ды Канадзе выпадае курэй на аднаго жыхара аж 6 штук.

